

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 3 (590) 22 СТУДЗЕНЯ 2003 г.**


## 110 гадоў Канстанцыі Буйло



14 студзеня споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння беларускай паэтэсы Канстанцыі Буйло. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі. Настаўнічала на Лідчыне. Друкавалася ў "Нашай Ніве". Жыла ў Маскве. Памерла ў Вільні. Пахавана ў в. Вішнева Валожынскага раёна.

Першы яе зборнік "Курганная кветка" (1914 г.) адрэдагаваў сам Купала. Выдала зборнікі"Світанне", "На аднойленай зямлі", "Май", "Роднаму краю", "Вясной", "Юрачка" і інш.

Аўтар словаў найпапулярнейшай песні М. Равенскага "Люблю".

## 25 студзеня Уладзіміру Высоцкаму споўнілася б 65 гадоў.

**Высоцкі ведаў пра свае беларускія карані і з сімпатыяй адносіўся да Беларусі, сустракаўся з Міхасём Ткачовым у Наваградку.**

**Уладзімір Высоцкі**

# ПОМНІК

Пры жыцьці я быў статным і сьмелым,
Не баяўся ні слова, ні кулі
І ў звычайныя рамкі ня лез.
З тых часоў, як лічуся памерлым,
Збранзавілі мяне і прыгнулі,
Ў п'едэстале загруз Ахілес.

Не абтрэсьці гранітнага мяса
І ня выцягнуць мне з пастамэнту
Ахілесаву тую пяту.
І жалезныя рэбры каркаса
Змацаваныя мёртва цэментам-
Толькі сутаргі празь немату.

Я хваліўся плячыма па сажню-
Наце зьмерці!
Я ня ведаў, што стану абсяжным
Пасьля сьмерці.
Але вось я ўгрувашчаны ў рамкі –
Зьмяты, ўбіты,
І ў надзейныя жорсткія лямкі
Ўвесь спавіты.

І зь мяне, калі ўзяў ды памёр я,
Пасьмяротную маску здымалі
Дальнабачныя члены сям'і.
І, пакольки ляжаў я пакорна,
З гіпсу ўшчэнт пазьдзіралі, счасалі
Зьлепкі скул азіяцкіх маіх.

Я й ня сыніў, што вось гэтак паверне.
Не лічыў я, што мне паграажала
Аказацца за мёртвых мярцьвей.
Ды ільсьнілася маскі паверхня
І магільнай самотай праймала
Ад бяззубай усьмешкі мае.

Пры жыцьці я ня ўкладваў пачвары
Ў пашчу палец,
Ад мяне, хто йшоў зь меркай звычайнай,
Адступалі.
Ды, здымаючы маску па сьмерці,
Тут жа ў ваннай,
І трунар падыйшоў ужо зь меркай
Палатнянай.

А затым, па мінуласьці году,
Як адзнака майго выпраўленьня,



Помнік мой, як дарунак віны,
Пры агромністым зборы народу
Адкрывалі пад песьняў гудзеньне
З намагнічаных стужак чыны.

Цішыню нада мной раскалола
І з дынамікаў хлынулі гукі.
З дахаў біў прамянёў мнагацьвет.
Надарваны адчаем мой голас
Прагрэсіўныя сродкі навукі
Пераклалі ў прыемны фальцэт.

Я маўчаў, пакрывалам зматаны,-
Ўсе там будзем!
Тым жа часам вішчаў, як зьлягчаны,
Ў вушы людзям.
Саван скінулі – вось я, пахілы,-
Наце мерце!

Ну няўжо ж я патрэбен такі вам
Пасьля сьмерці?!

Камандора крок гнеўны і гулкі...
Я і вырашыў скрочыць са звонам,
Бруканванкай, як ён пагрымець.
І натоўп адхіснуўся ў завулкі,
Калі вырваў нагу я са стогнам
І каменьне сыпнула зь мяне.

Нахіліўся я, голы, цьвярозы,
І ў падзеньні вылузваўся з скуры,-
Дацягнуўся жалезьзем крывым!..
І тады, калі грымнуўся вобзем,
З тых дынамікаў рваных, панурых
Прахрыпеў я: "Здаецца, жывы!..."
**1973 г.**

*Пераклад Міхася Булавацкага.*

## Літаратурны конкурс да 100-годдзя з дня нараджэння Наталлі Арсенневай



РГА "Беларускі ПЭН-цэнтр" пры падтрымцы Беларускай асацыяцыі журналістаў, газетаў "Белорусская деловая газета", "Биржа информации", "Барысаўскія навіны", "Брестский курьер", "Витебский курьер", "Вечерний Брест", "Вольны час", "Газета Слонімская", "Де-факто", "Інтэкс-press", "Молодежный проспект", "Навінкі", "Народная воля", "Наша Ніва", "Наша слова", "Новая газета Сморгони", "Новы час", "Переходный возраст", "Рунь", "Рэгіянальная газета", "Телевидинфо", часопісаў "Arche", "Студэнцкая думка", "Дзеяслоў", "Мясцовы час", інтэрнэт-выданняў "Літара.net", "Кнігі. Com", "Дзед Талаш", "BARCnews.org", "Пагоня. promedia.by" аб'яўляе творчы конкурс для маладых літаратараў.

Удзельнічаць могуць творцы ад 14 да 24 гадоў (на момант абвяшчэння конкурсу). Лаўрэаты конкурсу будуць запрошаныя на літаратурны семінар і майстар-класы ў Менск, дзе перад імі выступяць знаныя пісьменнікі, выкладчыкі ВНУ, вучоныя, барды, рок-спевакі, адбудзецца цікавая гутарка аб іх творах і літаратурнай дзейнасці. Прызам для пераможцы стане выданне ягонай кнігі.

На конкурс прымаюцца літаратурныя творы (вершы, апавяданні, эсэ, п'есы, сцэнары фільмаў, аўтарскія песьні, літаратурныя інтэрнэт праекты і г.д.). Удзельнікам, старэйшым за 19 год, пажадана ( але не абавязкова) прадставіць рукапіс кнігі.

Да разгляду будуць прымацца творы, дасланыя (паводле даты на паштовым штэмпелі або даты адпраўкі электроннага ліста) не пазней за 15 сакавіка 2003 г. Падвядзенне вынікаў першага туру і адбор удзельнікаў семінару адбудуцца 25 сакавіка. Літаратурны семінар і майстар-класы пройдуць у Менску на пачатку траўня. Іх удзельнікаў забяспечаць жытлом і харчаваннем..

Журы конкурсу: Міхась Тычына (старшыня), Андрэй Дынько, Ганна Кісліцына, Міхась Скобла, Андрэй Хадановіч.

Творы дасылайце на адрас:
**e-mail:** pen@pen.unibel.by;
**паштовы адрас:** 220050, Мінск, а/с 218, РГА "Беларускі ПЭЭН-цэнтр".
**Даведкі** праз электронную пошту ці тэлефон (017) 288-14-61.

## Напад на акадэміка Радзіма Гарэцкага

16 студзеня невядомыя пакуль злачынцы моцна збілі і абрабавалі акадэміка, сябра Рэспубліканскай рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Радзіма Гарэцкага.

Сакратарыят ТБМ выказвае пратэст супраць разгулу злачыннасці ў краіне і патрабуе неадкладна расследаваць факт збіцця акадэміка Р. Гарэцкага.

**27 студзеня 2003 года ў 10.00 Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь разгледзіць зыск ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" да Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь з нагоды вынясення Мінюстам папярэджання Таварыству за устаноўку Лідскай гарадской арганізацыяй ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" крыжа ў вёсцы Беліца Лідскага раёна і за афішу да месячніка "Размаўляем па-беларуску".**





# МЫ НАПІШАМ СВАЮ АРЫЙСКУЮ КНІГУ

## (Раман Вольгі Іпатавай "Залатая жрыца Ашвінаў")

Першая частка рамана з'явілася ў "Полымі" ў канцы 1997 года. У 2000 годзе раман выйшаў асобнай кнігай на рускай мове. Напрыканцы 2002 года раман адкрыў трылогію "Альгердава дзіда". Патрэбны быў пэўны час і некалькі прачытанняў, каб абстрагавацца ад формы, мастацкіх якасцяў і тонкасцяў сюжэту і стаўшы перад чыстай ідэяй дакладна прачытаць усё тое, пра што на працягу многіх старонак гаворыцца вобразнай мовай рамана.

Яркія сюжэты, вобразы і падзеі ўзнікаюць, як правіла, на зломах эпох, укладаў, культур. Час высвечаны раманам – час сутыкнення на Навагрудскіх і ліцьвінскіх землях хрысціянства з тутэйшым этнічным укладам, цывілізацыйных пачаткаў еўрапейскага сярэднявечча з тутэйшай самабытнасцю -- якраз і ёсць часам такіх зломаў і нават крушэнняў. І вынік гэтых крушэнняў вядомы загадзя. Хрысціянства перамагло. Пачаткі Вялікага Княства Літоўскага былі закладзены. І лёс галоўнай гераіні рамана Жывены перадвызначаны ўжо гэтымі вынікамі. Але перад падвядзеннем гэтых вынікаў давайце глянем у глыб канфлікту і ў глыб рамана.

Прыход хрысціянства, яго бясспрэчную перамогу сёння, асабліва ў 2003 год ад нараджэння Хрыста, трактаваць інакш, як з'яву выключна прагрэсіўную, не адважыцца ніхто. У рамане не аспрэчваецца гэтая догма. У рамане паказваецца другі бок і другія сілы. А па другі бок канфлікту не дзікуны, што моляцца пням і калодам, як гэта было прынята паказваць. Па другі бок культура ў значнай ступені больш высокая, чым тая, якую несла хрысціянства. Культура хрысціянства, заснаваная на юдэйскіх канонах светапогляду і светабудовы сутыкаецца ў Навагрудскіх лясах з культурай арыяў, якая абапіраецца на Веды. І Святазар – вярхоўны вяшчун і Жывена – вяшчуння Ашвінаў – гэта светлыя пачаткі і носьбіты той старажытнай культуры больш моцнай і багатай, чым культура хрысціянства, носьбітам якой паўстае Войшалк. Культура ведыйскіх вешчуноў гэта культура самадасканалых людзей і іх сіла ў гэтай дасканаласці. Яны не толькі памятаюць санскрыт, яны не толькі спяваюць гімны Аўшры і Ашвінам не толькі здольныя бачыць аўру чалавека, яны здольныя ўспрымаць навакольны свет праз веды і традыцыі арыйскай культуры. І, як ні дзіўна, ніякіх супярэчнасцяў паміж рэальным светам і яго ўспрыманнем не ўзнікае.

***У Сядзібе Партыі БНФ прайшла прэзентацыя кнігі вядомай пісьменніцы Вольгі Іпатавай "Альгердава дзіда". У кнігу ўвайшлі тры гістарычныя раманы, прысвечаныя эпосе станаўлення Вялікага Княства Літоўскага і асобам, якія аказалі значны ўплыў на фармаванне першай нашай дзяржавы. Пачынаецца трылогія раманам "Залатая жрыца Ашвінаў".***

***Уступнае слова да прысутных сказаў старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка. Ён адзначыў выключную ролю Вольгі Іпатавай, як пісьменніцы, для беларускай літаратуры і, як чалавека, для станаўлення беларускага грамадства. Зазначыў, што ў часе відавочнага крызісу, які сёння перажывае беларуская інтэлігенцыя, сп-ня. Іпатава застаецца прыкладам непахіснасці і прынцыповасці ўва ўсіх пытаннях, што тычацца беларускасці.***

***Вольга Іпатава падзякавала ўсім прысутным у зале, старшыні ТБМ Алегу Трусаву, Івану Саверчанку і ўсім сваім сябрам, якія дапамагалі ў працы над кнігай, падчас працы ў Саюзе пісьменнікаў і проста падтрымлівалі пісьменніцу ў цяжкія хвіліны. Таксама зазначыла, што прэзентацыя адбываецца ў сядзібе Фронту, а калісці першыя сустрэчы фронтаўцаў праходзілі ў Доме літаратара.***

***Як "набытак беларускай нацыі" акрэслілі Вольгу Іпатаву сябры пісьменніцы. Яны адзначылі ўнікальнасць і значнасць прэзентаванай кнігі, пажадалі творцы плённай працы і хутчэйшага з'яўлення новых кніг.***

У адрозненні ад хрысціянскіх прапаведнікаў, якія, і ў тым ліку і Войшалк, часта не маглі нічога прапанаваць акрамя веры, і Святазар, і Жывена, і Вакула, і іншыя вешчуны неслі веды. Разам з тым сутыкненне веры і ведаў адбывалася ў вярхах грамадства. Для нізоў веды Святазара былі на той жа ступені недасяжнасці, што і вера Войшалка. Просты чалавек аднолькава не разумеў і сутнасці далёкага Хрыста і моцы зусім блізкай і зямной Жывены. І тое і другое было для яго за гранню разумення. Аб'ём ведаў ведыйскіх вешчуноў для грамадства быў такім жа надзвычайным, як нябачны бог Войшалка.

У рамане сутыкнуліся дзве непрымірымыя стыхіі: мудрая, але стомленая тысячагоддзямі стыхія арыйскага светапогляду і даволі маладая і энергічная стыхія хрысціянства. Але гэтае сутыкненне адбываецца ўжо ўнутры беларускага грамадства і ў беларускім ключы. Экстрэмальных праяў не шмат: забойства хрысціянскага святара, разбурэнне ведыйскага храма. Усё расцягнута па часе і нясе не мэтанакіраваны, а даволі эмацыйна-выпадковы характар. Гэтая ўзаематалерантнасць змалёвана, як бы з натуры, бо мае шмат гістарычных сведчанняў. Фальклор Беларусі да апошніх яго праяваў – гэта кангламерат ведыйскіх і хрысціянскіх вобразаў. Мова беларусаў насычана дахрысціянскімі лінгвістычнымі фармацыямі *("Каб цябе Пярун лясnуў", "Пярун забіў")*. Апошняя капішча было выяўлена ў Менску ў пачатку 20-га стагоддзя, і г.д. Абрады беларусаў больш этнічна самабытныя, чым хрысціянскія, па форме, а шмат якія і па зместу. У галоўнай вежы сімвала Беларусі Мірскага замка ўмураваны, знойдзеная непадалёку каменная галава барана – ведыйскі сімвал старажытных арыяў, абярог, які павінен быў ахоўваць замак ад злога лёсу. Паводле легенды, пакуль будзе існаваць гэтая выява, датуль будзе стаяць Мірскі замак. 29 лістапада 2000 года Мірскі замак унесены ў спіс Сусветнай Спадчыны ЮНЕСКА. Разам з ім сусветнай спадчынай стала і нашая арыйская мінуўшчына.

Сутыкненне этнічнай культуры і хрысціянства ў рамане змягчаецца яшчэ і ведыйска-хрысціянскім дуалізмам Міндоўга, які па сутнасці так і застаўся носьбітам старажытнай веры і культуры, а Хрыстос для яго яшчэ адзін бог у дадатак да ўжо існых.

Трэба звярнуць увагу і на склад дахрысціянскага стану грамадства. У рамане носьбіты этнічнай культуры на Навагрудчыне – гэта па-большасці славяне з даволі нязначнай колькасцю славянізаваных балтаў. Таму працэсы ўзаемадзеяння рэлігій носяць не міжэтнічны, а ўнутрыэтнічны характар, што таксама ў значнай ступені садзейнічае ўзаематалерантнасці.

Арыйская культура нашых прашчураў – гэта асобная дзейная стыхія рамана. Яна паказана тут, як з'ява двухсубстанцыйная. Па-першае, гэтая культура -унікальная прыналежнасць менавіта беларускіх плямёнаў, якія данеслі яе да летапіснага часу і пранеслі праз усе цывілізацыйныя напластаванні. Па-другое, беларуская арыйская культура – гэта частка сусветнай арыйскай культуры. Ідучы па канве рамана чытач павінен быў чакаць, што галоўная гераіня, як носьбіт гэтай культуры, павінна трапіць у Індыю, каб зверыць з носьбітамі старавечнай мудрасці набыткі і страты славян. Волей аўтара да Індыі Жывена не дабралася, але ў Візантыі яна сустракаецца з тыбецкім лекарам Галданам Царанханам. Мудрасць тыбетца дасягнутая дзесяцігоддзямі навук і самаўдасканалення больш насычаная, чым веды Жывены, але яны належаць да аднаго пласту сусветнай культуры. А магчымасць уздзеяння на аўру чалавека ў Жывены значна мацнейшая. Таму і духоўны патэнцыял яе ніякім чынам не саступае патэнцыялу Царанхана. Гэта ж у сваю чаргу паказвае, што ўзровень культуры, захаваны вяшчунамі Навагрудчыны ні ў якім разе не ніжэй узроўню культуры ламаў Тыбету. Праўда, на той момант культура славян ужо 1800 гадоў была адарвана ад культуры Індыі, але захаваная на рэальных каштоўнасцях, яна развівалася ў тым жа кірунку, што і культура прарадзімы. У рамане праведзена частковая, але ў сваёй частцы глыбокая, ідэнтыфікацыя культаў і пантыёнаў арыйскіх і беларускіх этнічных багоў. Гэтая ідэнтыфікацыя не была самамэтай рамана, але яна падкрэслівае, што разыходжанне ў культурах зусім нязначнае. Безумоўна змены ў мове, у мясцовых умовах наклалі свой адбітак. Калі ў Індыі бог зімы быў малаактуальным і малазначным, то для Беларусі Зюзя – гэта вам не абы што. Гэта страшны і паважаны бог. Разам з тым гэтае разыходжанне і не магло быць вельмі вялікім. Мы павінны памятаць і сяды-тады нагадваць нашым гісторыкам і даследчыкам, што ў індуізме, альбо, як яго называюць самі індыйцы, ар'ядхарме (законе арыяў) у тройцы (трымурці) багоў, што ўзначальваюць пантыён гэтай рэлігіі адзін з багоў ***Вішну*** мае імя строга праславянскага паходжання ў беларускім гучанні і значыць ***Вышні***. Мы зрабілі з яго ***Ўсявышняга*** і перанеслі ў хрысціянства. Лінгвістычнае даследванне гнязда словаў на ***вішну*** ў санскрыце і на ***вышні*** ў беларускай мове паказвае, што ў нас гэтае гняздо поўнае: мае назоўнікі ***(вышыня)***, прыметнікі ***(вышні, вышэйшы)***, дзеясловы ***(павышэнне)*** і г. д. У санскрыце ў гэтым гняздзе толькі імя і некаторыя адымённыя ўтварэнні. Яно, як імя, не тлумачыцца з самога санскрыту. Таму трэба меркаваць, што ўся трымурці закону арыяў фармавалася з вярхоўных багоў розных крылаў расы, у тым ліку і праславянскіх, і прабеларускіх плямёнаў.

Нажаль, на Беларусі практычна не захавалася пісьмовых сведчанняў гэтай культуры. Даволі мала матэрыяльных сведчанняў, дакладней мала азначана, як арыйскіх. Затое магутны пласт постарыйскага фальклору яшчэ чакае свайго параўнальнага аналізу па лякалу арыйскай культуры. Фальклор Беларусі па глыбіннай сутнасці сваёй геліяцэнтрычны. Гадавое кола ***(каля-чакра***, санскр. ***кола часу)*** з чатырма характэрнымі кропкамі: Каляды, Вялікдзень, Купалле і Дзяды аздоблена фальклорнымі творамі чуць не на кожны дзень. І дарэмна кажуць, што ў беларусаў няма свайго эпасу. Наш эпас – дзесяткі таўсценных тамоў фальклорных твораў, якія значнай часткай сваёй апяваюць усяго адзін год жыцця і паўтараюцца праз год, і дзесяць год, і тысячу год.

Вобраз галоўнай гераіні рамана, залатой вяшчунні Ашвінаў, Жывены апрыоры павінен быць трагічным. Непазбежная параза этнічнай культуры мусіць выліцца ў індывідуальныя паразы яе носьбітаў і абаронцаў, ідэолагаў і вешчуноў. Гэтыя паразы могуць мець розныя праявы. Можа быць фізічнае знікненне, можа быць знікненне духоўнае, адступленне ад веры. Аўтар рамана любіць сваю Жывену. Для яе аднолькава недапушчальна ні першае ні другое. Таму ізноў на дапамогу прыходзіць беларуская сутнасць разумення падзей і арыйскае выйсце з сітуацыі.

Жывена не можа загінуць ні фізічна, ні духоўна. Яна проста павінна перайсці на новае кола быцця і яна робіць гэта. Жывена выходзіць замуж, каб генетычна прадоўжыць род Міндоўга і растварыць яго ў беларускім народзе. У будучых дзецях яна захавае і, магчыма, павысіць узровень самаўдасканалення арыяў, каб перадаваць іх з пакалення ў пакаленне.

У рэальным жыцці Жывена не пакіне Святазара і будзе да скону змагацца за храм Ашвінаў і несці людзям іх мудрасць і цалебную сілу. Але, калі замкнецца яе кола, і пагасне яе святло, на Зямлі цёмна не стане, бо будуць ззяць сегменты жыццёвых колаў яе нашчадкаў. У гэтым беларуская мудрасць развязкі праблемы. У гэтым беларускае ўвасабленне арыйскага вучэння пра перасяленне душ.

Сказаўшы ўсё, што было сказана, можна прыступіць да высноваў і коратка паўтарыць тое, што сказала Вольга Іпатава мовай гістарычных падзеяў і вобразаў на 250 старонках рамана.

**1.** Старажытная дахрысціянская Беларусь была носьбітам высокай і чыстай тысячагадовай культуры арыяў, якія задоўга да іншых народаў спазналі таямніцы Сусвету.

**2.** На Беларусь гэтая культура была перанесена без вялікіх скажэнняў, што дазваляе нам гаварыць пра цэльны і ўнікальны пласт старажытнай беларускай культуры.

**3.** Дахрысціянская рэлігія беларусаў цалкам адпавядала рэлігійным культам арыяў. Безумоўна некалькі змянілася акцэнтацыя важнасці і значнасці асобных культаў, але агульная адпаведнасць сумненню не падлягае.

**4.** Арыйская культура беларусаў была больш высокая, чым культуры, што несліся сюды і з Усходу, і з Захаду.

**5.** Арыйская культура беларусаў не была знішчана ці заглушана. Яна проста выйшла на новае кола свайго развіцця.

Больш тысячы гадоў беларусам убіваецца ў свядомасць хрысціянства. Больш тысячы гадоў яно прапаведуецца штодзень, штотыдзень, штогод. І ніхто не прапаведуе ні Куццю, ні Каляду, ні Купалу, ні Дзядоў. А народ называе касцельныя аплаткі калядою і выдатна сябе адчувае. Носяць Віфліеемскую зорку і водзяць арыйскую казу.

Так, сёння арыйская культура беларусаў цесна сплецена з хрысціянствам - яе ўжо не аддзяліць і не выдзеліць у чыстым выглядзе, але, менавіта яна накрывае сваёй магутнасцю рознавернае і бязвернае беларускае грамадства. І, магчыма, філасофія "Бхагавад – гіты" можа справіцца з крызісам нашай сучаснай філасофіі.

**6.** Адукацыя беларусаў павінна пачынацца не з казкі і песні, як прыдумкі цёмнай непісьменнай бабулькі. Адукацыя беларусаў павінна пачынацца з казкі і песні, як беларускай інтэрпрэтацыі арыйскага, ведыйскага эпасу і гімнаў Рыгведы, што данесла да нас гэтая бабулька.

**7.** Нашыя навучальныя ўстановы і перш за ўсё тыя, дзе вывучаюцца класічныя мовы, павінны пачаць глыбокае і шырокае вывучэнне санскрыту. Магчыма, гэта нашае наканаванне. Ні адзін народ Еўропы не стаіць бліжэй за нас да гэтай мовы – мовы першай кнігі на зямлі, якая называецца беларускім словам "Веды"

Беларускае грамадства чакае новых твораў арыйскай тэматыкі. І яны прыйдуць. Мы напішам арыйскую кнігу беларускага народа.

***Станіслаў Суднік.***

Рэха музычнай падзеі

# АПАЛАГЕТЫ І ІНТЭРПРЭТАТАРЫ МУЗЫЧНАЙ ГІСТОРЫІ

У наш прагматычны час у сферы музычна-выдавецкай дзейнасці (якая, дарэчы, ужо некалькі гадоў як паспяхова адраджаецца ў Беларусі) часта бывае так, што ўся ініцыятыва скіроўваецца на татальную камерцыйную выгоду. Здавалася, што акрамя розных "умца-бумца-турба-міксераў" няма чаго і чакаць на нашым музычным рынку. Дый, сапраўды, прадукцыя кшталту кампакт-дыскаў добра вядомых гуртоў "NRM", "Крама", "Безь Білета", "Zet" ды іншых хэдлайнераў розных музычных і калямузычных імпрэз запаланіла сціплыя беларускія музычныя яткі, не гаворачы ўжо пра ўвесь музычны рынак, які цалкам аддадзены чужынцам. І ўсё ж беларуская выдавецкая суполка БМАgroup здолела зрабіць сенсацыю ( і не адну!), распачаўшы спярша серыю "Беларускі музычны архіў" (кампакт-дыскі і касэты Міхася Забэйды-Суміцкага, Міколы Равенскага, Сяржука Сокалава-Воюша, Віктара Шалкевіча), а потым і серыю музычнай спадчыны беларускага Сярэднявечча.

Пакуль свет пабачыў толькі першы кампакт-дыск— "Легенды Вялікага Княства". Туды ўвайшлі і славуты ананімны музычны помнік XVI стагоддзя "Полацкі сшытак", і аўтарскія творы прафесійных беларускіх кампазітараў таго ж перыяду В.Длугарая, В.Бакфарка, Зм. Растоўскага-Туптaлы, фальклорныя гістарычныя балады і чумацкія песні, ваярскія і рэлігійныя гімны, а таксама вакальная і інструментальная музыка сучасных кампазітараў у стылістыцы эпохі Сярэднявечча (песні гуртоў "Вялікае Княства", "Стары Ольса", "Камэлот", гудзьба Пана Скіргайлы Паланэцкага). Да вельмі ёмістай і каларытнай гукавой праграмы выданне прапануе і бліскучую знешнюю аздобу, дыхтоўна выкананую на еўрапейскіх заводах "Sony" паводле дызайну мастака Зм. Герасімовіча. Як падкрэсліла на прэзентацыі дыска прадзюсер праекту Арына Вячорка, "выданне з'яўляецца зрэзам розных формаў сучаснага асэнсавання нашай музычнай і гістарычнай спадчыны". А ў адным з інтэрвію тая ж Арына Вячорка звярнула ўвагу, што гэтая сур'ёзная праца патрабуе пільнай і неабыякавай увагі даследчыкаў і крытыкаў.

Сапраўды, якая прастора для ўдумлівай і зацікаўленай крытыкі! Вось дзе можна разгарнуцца думкаю! І як жа крытыка сустрэла гэтую ўнікальную ініцыятыву?

Шчыра кажучы, публікацый было вельмі шмат. Пра пэўныя высновы сведчаць самі загалоўкі: "Захаваць рамантычную аўру", "Сярэднявечча, Еўропа, made in Belarus", "Голас з мінуўшчыны", "Рок-н-рол пад звон кальчугі", "Ажываюць Легенды"... І ўсё ж не ўсе майстры пяра засвоілі вельмі слушную выснову чэшскай пісьменніцы Марыі Пуйманавай: "Крытык – не настаўнік пачатковай школы, каб выстаўляць адзнакі." Асабліва шмат шкалярскіх адзнак замест канкрэтных стваральных імпульсаў мы знайшлі ў аб'ёмным матэрыяле Юліі Андрэевай "Легенды пра Вялікае Княства" (ARCHE № 1, 2001 г.).

Каб разабрацца ў гэтай публікацыі, трэба стаць добрым кампутарным хакерам, бо стыль спадарыні Ю. Андрэевай чымсьці нагадвае працу сапсаванага кампутара: сярод шматлікіх глыбаў сапраўды грунтоўнай інтэлектуальнай інфармацыі, ад якой чакаеш не менш глабальных высноў, сустракаюцца выразныя "глюкі", якія прыводзяць да сістэмных памылак. Самая недарэчная з іх – калі славутую дынастыю Уладзіміра і Алеся Пузыняў (бацька і сын) загналі ў нейкую міфічную постаць Алега Пузыні, які пачынаў у 80-х гадах. На рэкламным постэры ў газеце "Чырвоная змена" нават 90-х гадоў А. Пузыня займае сціплае непрыкметнае месца пад выразным лагатыпам бацькі – "Уладзімір Пузыня". З яго і пачыналася дынастыя знакамітых майстроў і музыкаў. Але ці рускамоўныя чытаюць беларускую прэсу? Мы не ведаем. Затое вы дакладна ведаеце, што "беларускамоўныя цяперака амаль пагалоўна (што, нас усіх за быдла трымаеце?) настальгуюць па залатой часіне Вялікага Княства Літоўскага". Мо Ю. Андрэева хоча, каб мы следам за яе цёзкай Нінай Андрэевай настальгавалі па БССР-СССР? Прабачце, беларускамоўным бліжэй тое, дзе яны жылі, а не існавалі.

Было б і вам гэта бліжэй, не аспрэчвалі б вы, напрыклад, што каралеўская капэла "месцілася не ў Горадні, а ў Кракаве". Нават з "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (том 1, ст. 331) можна даведацца, што адна з улюбёных рэзідэнцый караля Сцяпана Батуры ў XVI стагоддзі існавала якраз у Горадні, дзе працавалі вядомыя кампазітары В. Длугарай і К. Клабан. А для большай пераканаўчасці прапануем вам пачытаць памятку той эпохі — "Інвентар пасмяротных рэчаў караля Сцяпана Батуры, складзены ў Горадні ў 1586 годзе". Дык не трэба ж герменеўтызаваць на чужую карысць нашую гісторыю! А такой тэндэнцыяй прасякнуты ўвесь артыкул .

Напрыклад, Ю. Андрэева не заўважае русіфікацыю славутага беларускага "Застольнага канта" Дзяржаўным камерным хорам Беларусі п/к І. Матюхова, праз якую, аднак, робіць крыўдную заўвагу рэцэнзент радыё "Polonia" Алесь Навіцкі: "Наўрад ці мовай песень Вялікага Княства Літоўскага мог быць сучасны расейскі жаргон". Аб слушнасці гэтай заўвагі мяркуйце самі паводле тэксту:

***Напейтеся все пьяны,***
***Не будете упрямы.***
***Не очень тужите,***
***Две чарки в руки взявши.***

Калі ж Ю. Андрэевай гэта здаецца дробяззю, дык чаму ж яна накідваецца на беларусізаваную гуртом "Стара Літва" псалму "Нас дзеля распятага" Дзмітрыя Растоўскага-Туптaлы? Мо дзеля таго, каб навукова падмацаваць шкалярскія адзнакі кшталту "напаўдылетанцкае выкананне двух студэнтаў кансерваторыі?" Але ж менавіта гэты твор з надзвычайным энтузіязмам сустракалі слухачы падчас жывых выступленняў гурта "Стара Літва" і яго салісткі Дыяны Маркінай.

Вельмі моцна прасочваецца ў такой канцэпцыі пазіцыя сучаснай "Нашай нівы", дзе таксама прапісалася Ю. Андрэева: бі сваіх, каб чужыя баяліся. Вось і кідаюцца на ўсё беларускае быццам бы з беларускіх пазіцыяў. У выніку атрымліваецца, што беспадстаўна крыўдзяць нават такіх шаноўных адмыслоўцаў як В. Дадзіёмаву, Л. Сімаковіч, А. Вячорку... Для прыкладу, невядома чаму Ю. Андрэева піша, што "пры падрыхтоўцы касеты былі прыцягнуты навуковыя кансультанты, але музычны змест новага альбому апынуўся лепшым, чым ягонае навуковае забеспячэнне", хоць прадзюсер А. Вячорка сцвярджае, што да В. Дадзіёмавай звярталіся не дзеля стварэння разгорнутых навуковых каментароў да твораў, а па звычайныя кансультацыі для ўдакладнення некаторых дадзеных. Дый грэх папракаць чалавека, які праз уласныя намаганні папаўняе ўнікальнымі навуковымі матэрыяламі беларускую культуру і адказвае за іхнюю абгрунтаванасць і гістарычную дакладнасць.

А ў некаторых з стваральнікаў кампакт-дыска Ю. Андрэева, калі лічыць сябе далікатным чалавекам, увогуле, павінна папрасіць прабачэння за, прыкладам, такія фразы сваёй рэцэнзіі: "кампазітарка Ларыса Сімаковіч спявае песню "Бегла старожа", ўзятую з рэпертуару "Майстроўні" ў собскай апрацоўцы, якая выдае неразуменне жанру твору", "Спадар Ігар Міхно называе песню "Валы" ваярскай, а яна – чумацкая і датуецца другой паловай ХУШ стагоддзя" і г.д.

Накont неразумення жанраў, дык тут рэцэнзентка дапускае яўны перабор, бо выбар жанру – прэрэгатыва менавіта кампазітара, які можа псалм ператварыць у кант, малітву – у той жа кант ці нават у бардаўскую песню. Вось і Ларыса Сімаковіч у звычайнай валачобнай песні падкрэсліла ваярскі дух, рэха зусім недаўняга мінулага — змагання з татара-мангольскай навалай.

***Ўжо ж тваю дзевачку татары ўзялі,***
***Добры вечар...***
***Я ж тых татараў мячом пасяку ,***

***Добры вечар...***
***Я ж тую дзевачку за сябе вазьму...***

"Іначай кажучы, — піша Ю. Андрэева, — гэтая песня накшталт вясковае серэнады. Хадзілі валачобнікі па дварох, пужалі дзяўчат казачнымі татарамі".

Адкуль такая наіўнасць — чаму казачныя татары, а не мексіканцы альбо грэкі? Мо ўсё ж было нешта такое ў рэальным жыцці, у рэальнай гісторыі нашага краю. І на гэта ж скіроўвае ўвагу інтэрпрэтацыя Ларысы Сімаковіч. Дык у чым праблема? Ды проста ў тэндэнцыйнасці падыходу рэцэнзента. Як і ў выпадку з Ігарам Міхном, толькі той зусім не аб'яўляў жанравай прыналежнасці пэўных твораў да ваярскіх, але быў у гэтым абвінавачаны.

"Яшчэ больш пытанняў (паводле Ю. Андрэевай) выклікаюць самі творы В. Бакфарка. Адкуль з'явілася п'еса "Танец Баторы", а таксама "Танцы", якія не фігуруюць ні ў адным спісе твораў?". Ну што ж, спадарыня Юля, не было ў вас часу зірнуць у такія выданні, як зборнік "Нова радасць настала" або ў дапаможнікі В. Жывалеўскага, дзе надрукаваны і ноты, і тэксты незнаёмых вам твораў? Хто шукае, той знойдзе!

Але Ю. Андрэева шукае сваё. Зачапіўшыся за дробную згадку "Гістарычная музыка Беларусі" (на тытульнай вокладцы такіх нават словаў няма), гора-крытык даходзіць да вельмі сур'ёзных папрокаў: "Прэтэнзія на гістарызм небяспечная тым, што прадугледжвае больш высокія патрабаванні да ўкладальнікаў. Паўстаюць пытанні пра аўтэнтычнасць прадстаўленых твораў, пра іх крыніцы, пра слушнасць іхнае атрыбутыкі..." І менавіта тытульная вокладка пацвярджае слушнасць трактоўкі выдацоў, што тэрмін гістарычная музыка не такі ўжо канкрэтны, як камусьці здаецца на першы погляд. Дый увогуле такога тэрміну ў музыкалогіі няма, за выключэннем гістарычных аспектаў пэўных песенных жанраў (а гэта ўжо сфера тэксталогіі). Тым не менш, выдаўцы маюць падставы сцвярджаць, што дыск "Легенды Вялікага Княства" служыць мэце папулярызацыі гісторыі Беларуі праз музыку. І толькі ў гэтым яго гістарычнасць. Але не толькі ў гэтым каштоўнасць.

Абыграўшы ў назве свайго артыкула назву дыска, Ю. Андрэева зрабіла кардынальную метадалагічную памылку: выданне ўзнаўляе менавіта легенды, але не пра Вялікае Княства, а з душы яго, бо гэта гукавое адлюстраванне нашай гісторыі. Беларускамоўных таму і беларускамоўных, што не настальгуюць, а жывуць яго ідэаламі, мастацтвам і музыкай.



На фота Д. Чаховіча: У. Пузыня падчас святкавання Дня беларускай вайсковай славы.

Вітаўт Мартыненка,
Анатоль Мялыгуй.

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік:
ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі:
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў:
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

Рэдакцыйная калегія:
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 20. 01. 2003 г.
Наклад 2300 асобнікаў. Замова № 35.
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 458 руб., 3 мес.- 1374 руб.
Кошт у розніцу: 120 руб.